№ 145 (267)
Пятніца, 22 жніўня 1997 г.
Выдаецца
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень
Выдавец — ТАА "Народная воля"
Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля



Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"





**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 5.45 | 20.19 |
| Магілёў | 5.48 | 20.15 |
| Гомель | 5.49 | 20.08 |
| Мінск | 5.58 | 20.26 |
| Гродна | 6.14 | 20.40 |
| Брэст | 6.19 | 20.37 |

*Апошняя квадра 25 жніўня.*



# Бяднеем, браткі-беларусы, бяднеем...

## Калі ўзяць намінальную сярэднюю заработную плату, то ў сувязі са зніжэннем валютнага курсу рубля яна знізілася з 77,7 долара на пачатак ліпеня летась да 68 долараў сёлета

Нестандартный взгляд

## Чтобы не судили Павла Шеремета при "закрытых дверях"...

Как показывают события последних дней, судьба сотрудников ОРТ — как съемочной группы Павла Шеремета, так и другой, решившей пройтись по... его следам, уже предрешена.

Кто сталкивался когда-нибудь с нашей судебной системой образца 1996—1997 годов, тот может прогнозировать развитие событий и решений суда по данному уголовному делу. Тем более — если вдруг получено "добро" (или заказ) от всенародно избранного.

Складывается впечатление: суд в республике — просто формальность, необходимая для придания видимости закона при расправе с неугодным гражданином. Вне зависимости, какой именно суд Республики Беларусь будет рассматривать дело, какой адвокат — Погоняйло или другой — защищать коллег, совершали они преступление или нет, приговор, на мой взгляд, будет таким, каким его разрешат принять "сверху".

Какие основания для подобного рода "крамольных" мыслей?

Судью уволить с работы проще пареной репы: достаточно указа всенародно избранного.

Адвокат, какой бы он хороший ни был, может очень быстро лишиться адвокатской лицензии, если будет "неправильно" понимать политику нынешнего государственного правителя.

К таким неутешительным выводам я пришел, имея богатый опыт общения с нашими полностью "независимыми" судами.

Замечу только, в пределах законодательства Республики Беларусь (не отмененного, к счастью, пока президентскими декретами): многого можно добиться, используя нетрадиционные методы. Какие же это методы? Например, Уголовно-процессуальный кодекс, или УПК, Республики Беларусь допускает к участию в процессе общественную защиту. И этим нужно воспользоваться. Процесс ведь могут сделать закрытым. Но законодательство не ограничивает число общественных защитников. Подзащитные, или обвиняемые по суду, могут быть членами различных трудовых организаций, профсоюзов, общественных организаций одновременно. Если не вступили, то не возбраняется вступление по заявлению в общественные организации, даже будучи в изоляторе. Каждая организация имеет право выдвинуть на общем собрании своего общественного защитника. Причем количество общественных защитников может быть довольно-таки большим. А это уже не позволит суду ограничить производство по делу узким кругом лиц.

Если добавить, что процессуальные права общественных защитников приравнены к адвокатским, то от активности общественных организаций зависит многое. Однако возможности суда и властей надавить на представителей общественных организаций и трудовых коллективов гораздо меньше, чем на адвокатов. И это — главное.

**В.ЛЕВОНЕВСКИЙ,**
**председатель профкома.**
г.Гродно.

## В сентябре поедем по новым ценам?

Жители столицы забеспокоились: в Минске поползли слухи о том, что в сентябре ожидается повышение цен на проезд в городском транспорте. Знающие горожане убеждают пассажиров автобусов, троллейбусов, трамваев и метро, что подорожать билетики должны были еще а июле, а нынче на улице уже конец августа.

В Управлении транспорта и связи Мингорисполкома меня заверили, что, по-видимому, в первый осенний месяц цены на проезд останутся прежними. Во всяком случае, проездные билеты на сентябрь уже продаются по старым ценам. Хотя, конечно, утверждать то, что и в конце месяца за один талончик нам придется по-прежнему отстегивать 2 тысячи "зайчиков", даже в исполкоме никто не берется.

В общем, считают городские власти, повышать тарифы на проезд надо, потому как остро сегодня стоит вопрос с оплатой электроэнергии. Но делать это, по их мнению, надо не каждый месяц, а единожды. Поэтому недавно Управление транспорта и связи Мингорисполкома обратилось в Комитет цен Министерства экономики с заявлением повысить тарифы на проезд в городском транспорте исходя из суммарного уровня инфляции в стране. Ответа пока нет.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Польшча — пастаянны спажывец "Белшыны"

Дагавор на пастаўку буйной партыі шын на агульную суму 509 тысяч долараў ЗША заключыла адна з польскіх фірм з Беларускім шынным камбінатам. Увесь гэты аўтамабільны "абутак" прызначаны для нашых жа беларускіх 30—40-тонных БЕЛазаў, якія працуюць у суседняй краіне. Польшча стала пастаянным спажыўцом шын, што выпускаюцца на бабруйскім прадпрыемстве, і закупляе іх ужо на працягу дзесяці гадоў.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ.**

Рэха

## Ніякагаператрусу не было...

У рэдакцыю газеты "Народная воля" патэлефанаваў старэйшы следчы па асоба важных справах пракуратуры Рэспублікі Беларусь Валерый Міхайлавіч Камароўскі ў сувязі з публікацыяй інфармацыі "Беларускі шлях" за кратамі КДБ" (№143). Ён пацвердзіў, што з нагоды змяшчэння ў газетах "Пагоня" і "Свабода" апошніх артыкулаў З.Пазьняка сапраўды ўзбуджана крымінальная справа. Але ніякага ператрусу ў рэдакцыі газеты "Пагоня" не было, проста праводзілася звычайная працэдура па далучэнню да справы арыгіналаў матэрыялаў З.Пазьняка. Дарэчы, у рэдакцыі газеты "Пагоня" іх знайсці не змаглі.

## Сколько у нас безработных?

По данным Министерства статистики и анализа, на конец июля в стране было официально зарегистрировано 151,7 тысячи безработных, или 3,3% экономически активного населения.

Правда, немалый процент составляет так называемая скрытая безработица. В режиме неполного рабочего времени работало 6% работников от общей численности, до 5,8% их находилось в вынужденных отпусках. Таким образом, армия безработных (полностью и частично) составляет где-то 15%.

Средний размер пособия на одного безработного в июле составил 192,1 тысячи рублей.

**Сергей ПЕТРОВ.**

Стоп-кадр



## Ідуць машыны з хлебам новага ўраджаю



Драгічынскі камбікормавы завод — самы буйны хлебапрыёмны пункт у Брэсцкай вобласці. Разам са сваімі філіяламі ён можа змясціць у засекі каля 120 тысяч тон збожжа.

З першых дзён уборачнай кампаніі сюды бясконцым патокам ідуць машыны з хлебам новага ўраджаю. А на іх прыёме тут працуюць зладжана і з веданнем справы. Бяруцца пробы на аналіз, вызначаецца якасць сабранага збожжа, бо яго трэба не толькі прыняць, але і захаваць. Разгрузка адбываецца без затрымкі, прастоі зведзены да мінімуму — у хлебаробаў кожная хвіліна ўлічана.

**На здымках:** *на элеватар увесь час прыбываюць машыны са збожжам; зерне прывёз вадзіцель калгаса імя Леніна Драгічынскага раёна Антон Антончык.*

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

Незалежная экспертыза

## Зноў зафіксаваны рост. Толькі якой цаной?

Відаць, усе звярнулі ўвагу, што па выніках гаспадарчай дзейнасці за сем месяцаў (студзень — ліпень) няма пафасных выступленняў ні самога прэзідэнта, ні яго атачэння. Што адбылося з так гучна абвешчаным эканамічным ростам у першым паўгоддзі?

Як сведчаць даныя статыстыкі, у ліпені ў народнай гаспадарцы Рэспублікі Беларусь назіраўся працэс затухання тэмпаў так званага эканамічнага росту. Таму, выступаючы на пасяджэнні Савета міністраў 12 жніўня, калі вынікі за ліпень былі ўладам ужо вядомыя, Аляксандр Лукашэнка гаварыў аб поспехах не за сем месяцаў, а за паўгоддзе. Аказваецца, што ў ліпені аб'ём вырабу прамысловай прадукцыі павялічыўся толькі на 0,4%, тавараў народнага спажывання — на 0,7%. А вытворчасць нехарчовых тавараў, рэалізацыя малака і мяса нават скараціліся. У ліпені адбылося скарачэнне ўвядзення жылых дамоў у пяць разоў у параўнанні з чэрвенем. Ну, а ў цэлым за сем месяцаў амаль паўсюль болей як 10 працэнтаў прырост. Статыстыка, як кажуць, спрацавала. Адносна яе ходзіць дасціпны жарт, які дапасуецца да нашай сітуацыі. Аказваецца, ёсць некалькі ўзроўняў праўды: праўда, паўпраўда, няпраўда і статыстыка.

Жарт жартам, а рэальна так званы рост за паўгоддзе і ў цэлым за сем месяцаў быў усё ж ірацыянальным. Чаму? Проста таму, што пры нізкім узроўні інвестыцый вытворчага прызначэння пад адміністрацыйным ціскам узмацнялася інтэнсіўнае выкарыстанне ўжо зношанага абсталявання, што, на думку аналітыкаў, само па сабе нядрэнна, але мае, на жаль, пэўныя межы. А вырабленая прадукцыя часткова пайшла на склад, а часткова рэалізоўвалася па бартэру, прычым на дзяржаўным узроўні. Як адзначыў кіраўнік урада Сяргей Лінг на апошнім пасяджэнні ўрада, бартэрныя аперацыі на шэрагу прадпрыемстваў дасягаюць 50—90 працэнтаў вырабленай прадукцыі. Гэта па-першае.

А па-другое, рост валавога ўнутранага прадукту ажыццяўляўся за кошт вялікіх крэдытаў у жыллёвае будаўніцтва. Як паведаміў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка на апошнім пасяджэнні ўрада, на 1 жніўня асвоены крэдытныя лініі, адкрытыя на жыллёвае будаўніцтва паводле яго ўказаў, на суму 4296,7 млрд. рублёў. А да канца года гэтыя крэдыты могуць скласці 5,8 трыльёна рублёў. Што ж, ажыўленне жыллёвага будаўніцтва можна вітаць, але такое маштабнае яго крэдытаванне праз фактычную эмісію грошай непазбежна разваливае фінансава-крэдытную сістэму краіны і моцна сілкуе інфляцыю.

Па-трэцяе, крыніцай штучнага росту прамысловай прадукцыі і ВУП, безумоўна, з'яўляецца непагашаная запазычанасць па энерганосьбітах перад Расіяй. Толькі па газу яна складае 124 млн. долараў, па электраэнергіі — 36,8 млн. долараў. А ўнутраная запазычанасць спажыўцоў рэспублікі, паводле інфармацыі кіраўніка ўрада Сяргея Лінга, складае па прыроднаму газу 6,8 трлн. рублёў, нафтапрадуктах — 0,9 трыльёна, па электраэнергіі і цеплавой энергіі — 7,4 трыльёна рублёў. Атрымліваецца, што расцём за кошт даўгоў. Між тым такі ж малюнак складваецца і па дэбіторскай запазычанасці. Калі супаставіць тое, што нам павінны, і што мы павінны, то атрымліваецца розніца ў 2 трыльёны рублёў. Зноў жа не на карысць Беларусі.

Нарэшце крыніцай ірацыянальнага росту эканомікі з'яўляецца проста непамерны дэфіцыт знешнегандлёвага балансу, які за паўгоддзе склаў 919,2 млн. долараў, ці 18,3% ВУП, што ёсць пагроза эканамічнай бяспецы краіны.

Аналітыкі падлічылі, што з улікам недафінансавання ў першым паўгоддзі навукі, аховы здароўя, чарнобыльскіх праграм і сацыяльнай сферы, а таксама выдачы льготных крэдытаў АПК, якія рэальна не вяртаюцца і ператвараюцца ў непасрэднае фінансаванне, фактычна дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту складае ўсё ж 7 трыльёнаў рублёў. Зразумела, што і цаной гэтага дэфіцыту забяспечваецца штучны рост. Не выпадкова ў новым бюджэце, уведзеным паводле Дэкрэта прэзідэнта №15, дэфіцыт бюджэту зафіксаваны на канец года ў памеры 10 трлн. рублёў.

Што датычыцца павелічэння росту на некалькі працэнтаў рэальных даходаў насельніцтва, то гэта таксама не адпавядае рэальнай сітуацыі. Калі ўзяць намінальную сярэднюю заработную плату, то ў сувязі са зніжэннем валютнага курсу рубля яна знізілася з 77,7 долара на пачатак ліпеня летась да 68 долараў сёлета. Аб якім росце жыццёвага ўзроўню можа ісці гаворка, калі рэальна назіраецца толькі яго зніжэнне!

У сувязі з вышэйвыкладзеным пытанне можа быць пастаўлена толькі так: да якога часу можа доўжыцца штучны рост эканомікі Беларусі і калі пачнецца рэальны?

**Уладзімір КУЛАЖАНКА,**
**доктар эканамічных навук, прафесар.**

Духоўны скарб

*Нядаўна адбыўся Другі з'езд беларусаў свету. Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі абмежаваліся кароткімі паведамленнямі, хоць на форуме прагучалі вельмі сур'ёзныя і трывожныя выступленні. Сёння мы прапануем чытачам "Народнай волі" даклад, з якім выступіў вядомы вучоны і грамадскі дзеяч Радзім Гарэцкі.*

*Радзім Гарэцкі*

## Няма мовы – няма нацыі, няма нацыі – няма дзяржавы

### Праблемы захавання беларускай прысутнасці ў свеце

Паводле бясспрэчных гістарычных фактаў, Беларусь прысутнічае ў свеце звыш тысячы гадоў. "Повесть временных лет" зафіксавала першае дзяржаўнае ўтварэнне нашых продкаў крывічоў — Полацкую воласць — пад 962 годам. Першае летапіснае паведамленне пра самастойныя княствы крывічоў і дрыгавічоў — Полацкае і Тураўскае княствы — пазначана 980 годам. У эпоху свайго росквіту (XI—XII стагоддзі) Полацкае княства за Усяславам Чарадзеем аб'яднала паўночнаўсходнюю і цэнтральную тэрыторыі сучаснай Беларусі з гарадамі Полацк, Віцебск, Друцк, Браслаў, Менск, Ворша, пранікла на заходнім напрамку ў летапісную Літву, па Дзвіне мела выхад да Балтыйскага мора. Тады ж Тураўскае княства набыло незалежнасць ад Кіева і аб'яднала паўднёва-заходнюю беларускую зямлю з гарадамі Тураў, Пінск, Брэст і інш.

З самага пачатку старажытная Беларусь аказалася на скрыжаванні трансеўрапейскіх шляхоў, дзе сутыкнуліся геапалітычныя інтарэсы суседзяў, схільных да экстэнсіўнага пашырэння сваёй тэрыторыі (імперскі сіндром). Спачатку гэта была вось з поўначы на поўдзень ("шлях з варагаў у грэкі"), якая перасякала Усходнюю Еўропу і ў пэўным сэнсе далучала яе шматэтнічных насельнікаў да двух рэгіёнаў цывілізацыі — Рыма і Візантыі. За восем гадоў да хрышчэння Русі яе будучы хрысціцель кіеўскі князь Уладзімір, пасля няўдачнай спробы далучыць Полаччыну праз дынастычны саюз, на пэўны перыяд падавіў яе метадам генацыду (знішчыў эліту і паланіў патэнцыяльных ваяроў). Пазней яшчэ больш жорстка расправіўся ягоны нашчадак Уладзімір Манамах з Менскам.

Такім чынам, ужо ў X—XII стагоддзях завязаліся вузлы гістарычнага лёсу беларусаў: жывучы на скрыжаваннях геапалітычных інтарэсаў этна-дзяржаўных утварэнняў, схільных да імперскай палітыкі, ім прыходзілася, як той міфічнай птушцы Фенікс, уваскрасаць з уласнага попелу для новага жыцця.

Пасля распаду Кіеўскай Русі, захопу яе татара-манголамі, узмацнення паўночна-ўсходняй Русі з цэнтрам у Маскве, асабліва пасля падзення Візантыйскай імперыі асноўнае напружанне беларускай гісторыі перайшло на вось Усход — Захад. Спачатку перавагу ў геапалітычным спаборніцтве за ўсходнееўрапейскі рэгіён мела Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ) па сваіх этнічных і культурных дамінантах — беларуска-літоўская дзяржава. Пры вялікіх князях Альгердзе (1341—1377) і Вітаўце (1392—1430) ВКЛ вызваліла Украіну ад татара-мангольскіх заваёўнікаў. Большая частка Украіны і цяперашняя Заходняя Расія да Клязьмы ўвайшлі ў склад беларуска-літоўскай дзяржавы. На захадзе пасля Грунвальдскай бітвы (1410) Тэўтонскі ордэн, які панаваў у Прыбалтыцы, паступова заняпадаў і ў другой палове XV ст. прызнаў сябе васалам ВКЛ, якое заняло дамінуючае становішча ва Усходняй Еўропе, мела выхад у Чорнае і Балтыйскае моры.

Аднак пасля канчатковага вызвалення ад Залатой Арды (1480) Маскоўскае княства, падпарадкаваўшы сабе Ноўгарадскую, Цвярскую і іншыя землі сучаснай Расіі, у саюзе з Крымскім ханствам пачало няспынны націск на захад. Люблінская унія з Польшчай і ўтварэнне Федэратыўнай Рэчы Паспалітай (1569) амаль на стагоддзе стабілізавалі геапалітычнае становішча ВКЛ за кошт абмежавання яго суверэнітэту. У гады так званай расійскай смуты (1603—1613 гг.) беларуска-літоўская дыпламатыя паспрабавала пашырыць федэрацыю, уключыўшы ў яе Маскоўскую Русь (Расію) і забяспечыўшы Вялікаму Княству Літоўскаму геапалітычную перавагу. Гэта была апошняя спроба нейтралізаваць імперскі націск з боку Масквы. У выніку вайны Расіі з ВКЛ (1654—1667 гг.) Беларусь страціла палову свайго насельніцтва забітымі, памёрлымі ад голаду і эпідэміяў і ўзятымі ў палон, рассеянымі па прасторах Расіі. Гэта была першая дэмаграфічная катастрофа. Яе другі вынік — страта беларусамі апусцелых у гады вайны гарадоў, заселеных пазней іншымі этнічнымі групамі.

У гады Паўночнай вайны (1700—1721), эпіцэнтр якой зноў быў на шматпакутнай Беларусі, гэтыя дэструктыўныя працэсы — разбурэнне этнічнага ядра беларускай дзяржавы і расцярушванне яе эліты — зноў паўтарыліся. Урэшце, разбор Рэчы Паспалітай у 1772—1795 гг. зліквідаваў рэшткі дзяржаўнасці беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў. Толькі палякі да паўстанняў 1831 і 1863 гадоў захавалі некаторыя прыкметы рэгіянальнай і культурнай аўтаноміі.

Да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. царызм і пануючыя класы Расійскай імперыі праводзілі жорсткую палітыку этнацыду беларускага народа — падаўлялі спробы яго дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага адраджэння. Усе інстытуты Расіі — армія, школа, адміністрацыя, царква, прэса, эканамічная палітыка — служылі сродкамі татальнай дэнацыяналізацыі так званых "меньших братьев" сваіх. Як падкрэсліваў яшчэ У.Ленін — царская Расія — турма народаў. Фактаў тут безліч. Дастаткова прывесці толькі адзін: інтэнсіўна выкарыстоўваючы эканамічныя, людскія, ваенныя і іншыя рэсурсы Беларусі, царская Расія за 150 гадоў свайго панавання ў Беларусі не дазволіла тут ні адной беларускай школы, нават пачатковай, не кажучы ўжо пра універсітэт.

І ўсё ж ні прапольскай Рэчы Паспалітай з канца XVII да XIX ст., ні царскай Расіі не ўдалася татальная дэнацыяналізацыя Беларусі. Пад паланізацыю і русіфікацыю падпала значная частка пануючых класаў і чыноўніцтва, функцыянальныя сферы культуры (школа, прэса, кнігадрукаванне і інш.), сфера дзяржаўнага і эканамічнага ўпраўлення, войска, паліцыя, мясцовае самакіраванне. Этнічнае ядро нацыі, найперш сялянства, было слаба інтэгравана ў сістэмах пануючай улады і пануючай культуры. Яно няспынна параджала з сябе нацыянальную эліту — духоўных лідэраў нацыянальна-вызвольнага руху і культурна-нацыянальнага адраджэння — носьбітаў нацыянальнай ідэі і барацьбітоў за яе рэалізацыю ў жыццё.

(Працяг на 2-ой стар.)

Внимание!

## Не останьтесь без "Народной воли" в четвертом квартале

Хотя подписку можно было оформить на все второе полугодие, часть читателей смогла выкроить из своего скромного бюджета деньги лишь для подписки на третий квартал. Чтобы не остаться без "Народной воли" в октябре — декабре, не забудьте до 10 сентября заглянуть в ближайшее почтовое отделение или пункт "Белсоюзпечати" и продлить подписку. Что такое 29.000 рублей? Стоимость одного скромного обеда. А отдав эту сумму на подписку, Вы будете целый месяц с любимой "Народной волей". Наш индекс: 63222.

## Вы — с "Народной волей"! "Народная воля" — с Вами!

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на газету** 6 3 2 2 2 (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў

на 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газету** 6 3 2 2 2 (індэкс выдання)

ПВ | месца | літар

Народная Воля

Кошт: падпіскі ___ руб., пераадрасоўкі ___ руб.

Колькасць камплектаў

на 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

